# Рэгіянальная газета. Rh.by

Тэлетыдзень 27

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

3 ліпеня 2015 года №27 **(1052)**





# З вызваленнем Беларусі!



**Фестываль "Адна зямля-2015" у Ашмянах:**

**журы раіць сачыць за рухамі, выбіраць новыя песні і памятаць пра дробязі**

старонка **20-21**

| | | | |
|---|---|---|---|
| Радавы | Ахмадзін Адвятаў | 1922 | 03.09.1942 |
| Радавы | Шамшэ Адэнавіч Адэнаў | 1922 | 15.10.1942 |
| Радавы | Імангалі Айдаболавіч Айдабалаў | 1894 | 17.10.1942 |
| Радавы | Прохар Мікалаевіч Алшаеў | 1913 | 20.03.1942 |
| Радавы | Восіп Амеравіч Амераў | 1911 | 23.09.1942 |
| Радавы | Мірон Дзмітрыевіч Арыстарын | 1901 | 18.10.1942 |
| Радавы | Іван Рыгоравіч Ашмякоў | 1908 | 11.10.1942 |
| Радавы | Васіль Аляксандравіч Бахцін | 1902 | 30.07.1942 |

...

**Цалкам спіс шукайце на сайце Rh.by**

# 138

## новых імёнаў вязняў "Шталага-342"

**адшукаў клуб "Пошук" СШ №5 у Маладзечне у 2014-2015 навучальным годзе**

Інфаграфіка Настассі РОЎДЫ.

## НАВІНЫ РЭГІЁНА

### Помнік паэту Кандрацьеву адкрылі ў Каловічах

ВІЛЕЙКА

Памятная дошка аўтару "По диким степям Забайкалья" Івану Кандрацьеву адкрытая на яго радзіме ў вёсцы Каловічы ў мінулую сераду. Нарадзіўся паэт у 1848 годзе ў простай сялянскай сям'і. Адкрылі помнік біёграф Кандрацьева, таксама ураджэнец Каловічаў, прафесар **Аляксандр Смолік**, старшыня раённага савета **Наталля Радзевіч** і аўтар праекта **Анатоль Капцюг**. Урачыстасць стала пачаткам свята вёскі. Фотарэпартаж з месца падзеі глядзіце на сайце "РГ" **rh.by**.

### Запрашаюць на свята сялянскай працы

ВАЛОЖЫН

Яго ладзіць ААТ "Багданаўскае" ў суботу, 11 ліпеня. Пачатак свята – а 15-й гадзіне. А 19-й пачнецца дыскатэка. Гасцей чакаюць гандляры народных тавараў, забавы.

**Аддзел інфармацыі.**



Рыгор Сарока расказвае пра рэстаўрацыю месца касцёла прадстаўніку пасольства Францыі ў Беларусі Марку Санчысу.

● СПАДЧЫНА

# Той касцёл у Аборку быў вялікі і ружовы

МАЛАДЗЕЧНА

**Урачыстае адкрыццё адноўленага месца былога касцёла Святого Роха і пахавання роду Ходзькаў-Дэдэркаў прайшло ў вёсцы Аборак 24 чэрвеня.**

У гэты дзень там было шматлюдна. Прыехалі ўсе, хто цягам двух месяцаў руплива працаваў над рэстаўрацыяй.

Перад пачаткам мерапрыемства дырэктар Маладзечанскага дзяржаўнага музычнага каледжа імя Міхала Клеафаса Агінскага **Рыгор Сарока**, па ініцыятыве якога і распачалося аднаўленне, асабіста правёў экскурсію на месцы рэстаўрацыі:

– Калі б вы прыехалі сюды яшчэ месяц назад, то тут нічога не ўбачылі б, – звярнуўся ён да прысутных, – усё давялося аднаўляць па крупінках. Затое цяпер гэта месца стала нам усім вельмі родным.

Рыгор Сарока адзначыў, што зробіць усё магчымае, каб у Аборак прыязджалі турысты, каб мясцовыя жыхары ганарыліся тым, што жывуць у адметным месцы.

Пачалося ўрачыстае адкрыццё са слоў ксяндза **Эдмунда Даўгіловіча-Навіцкага** і пробашча касцёла Святога Роха ў Палачанах ксяндза **Сяргея Бараўнёва**.

Сяргей Бараўнёў нагадаў прысутным, што год таму яму разам з мясцовым мастаком **Рамуальдам Стужынскім** удалося адшукаць цудадзейны абраз Святога Роха, які цяпер знаходзіцца на рэстаўрацыі ў Нацыянальным мастацкім музеі.

Усіх, хто спрычыніўся да аднаўлення месца касцёла, Рыгор Сарока назваў асабіста. А працавала тут нямала людзей. Гэта і будаўнічая фірма "Барыт", і "Маладзечнаводаканал", і выратавальнікі пажарнага аварыйна-выратавальнага атрада Мінскага абласнога ўпраўлення МНС, і многія-многія іншыя арганізацыі, і проста неабыякавыя людзі.

Намеснік начальніка пажарнага аварыйна-выратавальнага атрада **Сяргей Яўсеенка** прызнаўся: калі дапамагалі рэстаўраваць месца касцёла, думалі пра тое, што хацелася б убачыць, як жа ён выглядаў.

На святе прысутнічала мясцовая жыхарка, 88-гадовая **Марыя Акульская**, якая ў гэты касцёл хадзіла, калі была маленькая.

– Я памятаю, што касцёл у Аборку быў вялізны і ружовага колеру. Абавязкова кожную нядзелю хадзілі да касцёла. Нават падчас вайны, здаецца, ён працаваў. А пасля ў ім зрабілі збожжасклад. Памятаю, паслужыў той касцёл збожжаскладам гады чатыры, потым дах пачаў цячы. Ніхто не рамантаваў, збожжа вывезлі, а сам касцёл разбурылі.

Цяпер на месцы касцёла стаіць крыж, адноўлены і ўмацаваны склеп пахаванняў роду Ходзькаў-Дэдэркаў, помнік упрыгожвае анёл, і які рабіў выкладчык музычнага каледжа імя Агінскага **Андрэй Гамолка**:

– Фігуру анёла я зрабіў прыкладна за паўтара месяца. Ён з гіпсу. Ніякімі эскізамі і фотаздымкамі не карыстаўся. Яго вобраз – гэта зборны вобраз. Я так убачыў, што анёл павінны быць менавіта такі.

**Пётр Краўчанка**, міністр замежных спраў Беларусі ў 1991-1994 гадах, які прысутнічаў на мерапрыемстве, заўважыў, што, каб справа рабілася, не трэба чакаць, пакуль пра гэта падумаюць іншыя. І адзначыў, што дзякуючы такім апантаным і бескарыслівым людзям, як Рыгор Сарока, мы даведваемся пра сваю багатую гісторыю:



Андрэй Гамолка – аўтар скульптуры анёла на помніку на месцы касцёла ў Аборку.

– Няпраўда, што беларусы – вясковая нацыя. І што ў нас няма сваёй эліты. Яна была, толькі мы пра яе не ведалі. Вы сваёй працай перараканалі ўсіх, што Агінскі і Ходзька – гэта і ёсць наша эліта, якая заклала падмурак беларускай дзяржаўнасці.

Усё пройдзе, застанецца толькі чалавечая велічнасць, сказаў Пётр Краўчанка. І працытаваў радкі **Ларысы Геніюш**:

*Адчула: народ*
*не ўчора паўстаў.*
*Не заўтра канец*
*нам прысудзяць.*
*З мінуўшчыны слаўных падзеяў і спраў*
*Мы ёсць.*
*Мы былі.*
*Мы будзем.*

**Наталля ТУР.**




● ДА 20-ГОДДЗЯ "РГ"

## Міхаіл Мацеша: "Газета – выдатнае рашэнне для бізнесменаў"

ВІЛЕЙКА

**Дырэктар магазіна бытавой тэхнікі ў Вілейцы Міхаіл Мацеша пазнаёміўся з "Рэгіянальнай газетай" восем гадоў таму.**

Яго зацікавіў багаты змест выдання: культурныя, эканамічныя, грамадскія навіны.

Прадпрымальнік вырашыў паспытаць на сабе эфектыўнасць рэкламы. Ён упэўніўся, што гэта выдатнае рашэнне для людзей, занятых у сферы бізнесу.

**– Даўшы рэкламу ў "Рэгіянальную газету", вы забіваеце адразу сем зайцоў, – жартуе прадпрымальнік, – бо газета выходзіць на сем гарадоў: Маладзечна, Вілейку, Валожын, Мядзел, Астравец, Ашмяны і Смаргонь.**

Таму маеш больш шансаў атрымаць новых кліентаў.

Міхаіл Мацеша чытае газету ад першай і да апошняй старонкі. Асаблівую ўвагу звяртае на навіны і падзеі, якія адбываюцца ў Вілейцы, бо жыве там, і Смаргоні, бо часта па справах бывае ў гэтым горадзе.

– У газеце вельмі цікавыя загалоўкі, таму артыкулы немагчыма не чытаць, – дзеліцца ўражаннямі Міхаіл Мацеша.

Мужчына пажадаў "Рэгіянальнай газеце" выходзіць яшчэ многа гадоў, займець новых чытачоў, падпісчыкаў. І надалей радаваць разнастайнымі матэрыяламі. А супрацоўнікам газеты – нязгаснай энергіі, крэатыўнасці і сіл для новых здзяйсненняў.

**Галіна СІНІЦА.**

● СВЯТЫ

## Палатка "У капуцына" будзе працаваць на Будслаўскім фэсце

МЯДЗЕЛ

Урачыстасці ў Будславе сёлета адбудуцца 3-4 ліпеня.

Вернікаў чакае насычаная праграма, з якой падрабязна можна пазнаёміцца на сайце rh.by. Пілігрымаў сустракаюць і вітаюць ад 13 гадзін у пятніцу.

Запрашаюць таксама папіць кавы капучына ў палатцы "У капуцына", якая працавала і летась.

Сёлета ладзяць 25-ю пілігрымку да абраза ў мядзельскім мястэчку.

**Паводле catholic.by.**

● УЗНАГАРОДЫ

## "Чалавекам года Гродзеншчыны" сталі жыхары Астравецкага і Ашмянскага раёнаў

АСТРАВЕЦ, АШМЯНЫ

У Гродне падвялі вынікі 2014 года, 13 чалавек атрымалі прэміі і званні "Чалавек года Гродзеншчыны".

У вытворчай галіне лепшымі сталі 12 чалавек, адзін з іх жыхар Астравецкага раёна **Павел Юрмашоў**. Ён кіраўнік фермерскай гаспадаркі "Астравецкае".

У грамадска-палітычнай галіне вызначыўся кіраўнік ашмянскай раённай арганізацыі "Беларускі саюз ветэранаў вайны ў Афганістане" **Мікалай Ладзін**.

**Паводле Гродзенскага аблвыканкама.**



Фота Насты РОЎДЫ.

Раніцай 28 чэрвеня шмат кашпо з кветкамі ўздоўж агароджы маладзечанскага парку былі паскіданыя.

● ХУЛІГАНСТВА

# Зноў скінулі кашпо з агароджы парку

МАЛАДЗЕЧНА

**Толькі тыдзень таму выправілі наступствы ад папярэдніх нападаў на гарадскія кашпо, як зноў іх трэба аднаўляць.**

Кветкі з агароджы ўздоўж парку па вуліцы Багдана Хмяльніцкага паскідалі ў Дзень моладзі, што святкаваўся ў Маладзечне 28 чэрвеня. "Камунальнік" уздыхае: куды глядзіць міліцыя?

– У шэсць гадзін раніцы дворнік выходзіць на работу і бачыць такую карціну: кашпо паскіданыя, кветкі на асфальце, зямля рассыпаная, – кажа загадчыца вытворча-тэхнічнага аддзела "Камунальніка" **Таццяна Паляковіч**. – Семвосем кашпо "Зелянгас" аднаўляў. І цяпер зноў, якраз у Дзень моладзі!

Як распавёў намеснік начальніка Маладзечанскага раённага аддзела ўнутраных спраў па ідэалагічнай рабоце **Уладзімір Васількоў**, хуліганаў затрымалі. Імі аказаліся два маладзёны.

Папярэдняя версія такая: ішлі двое хлопцаў, пазнаёміліся з дзвюма дзяўчатамі, вырашылі прадэманстраваць сваю сілу і першае, што трапіла пад руку, – кашпо з кветкамі. Міліцыя будзе правяраць версію.

**30 чэрвеня кашпо на агароджы з боку вуліцы Багдана Хмяльніцкага ўжо зусім не было. Цяпер хуліганам разбіваць няма чаго.**

Дарэчы, кветкамі ўпрыгожваюць агароджу звычайна ад пачатку летняга сезона. І сёлета на іх "нападаюць" ужо ў трэці раз. Прычым вандалаў цікавяць кашпо менавіта з боку вуліцы Багдана Хмяльніцкага. Іншых не чапаюць.

Настасся РОЎДА
nastya.rovdo@gmail.com
8-044-566-26-99 (працоўны)

● ЛЯСНАЯ ГАСПАДАРКА

## Устанавілі цэны на ягады, аднак некаторыя лясы нельга наведваць

ВІЛЕЙКА

**За парушэнне пагражае штраф да 25 базавых велічынь (да 4 з паловай мільёнаў рублёў).**

Галоўны спецыяліст Вілейскай раённай інспекцыі прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя Мікалай Сабалеўскі нагадвае, што цяпер існуе забарона наведваць лясы.

Некаторыя раёны краіны знялі забарону, сярод іх Мядзельскі, Валожынскі, Смаргонскі і Ашмянскі.

Калі збіраць ягады забароненымі для гэтага прыстасаваннямі, напрыклад, камбайнамі, пагражае штраф да 20 базавых велічынь (да 3 мільёнаў 600 тысяч рублёў).

**Галіна СІНІЦА.**

| Раён | Назва ягад | Цана за кілаграм, тыс. руб. |
|---|---|---|
| **Астравецкі** | чарніцы | 15 |
| **Валожынскі** | Пакуль не ўстанавілі цэны на ягады | |
| **Вілейскі** | чарніцы | 18 |
| **Ашмянскі, Смаргонскі** | чарніцы | 15 |
| | вішні | 5 |
| | суніцы | 40 |



Фота ziare.com.

● НАШЫ ГРОШЫ

## Сярэдні заробак у большасці арганізацый Беларусі не перавышае 5 мільёнаў рублёў

**Сярэдняя зарплата ніжэй за 5 мільёнаў рублёў у маі была ў 63,5% арганізацый, улічаных афіцыйнай статыстыкай.**

У тым ліку сярэдняя зарплата ад 4 да 5 мільёнаў рублёў у 8 746 арганізацый, сярэдняя зарплата ад 3 да 4 мільёнаў рублёў зафіксаваная ў 1 939 арганізацый.

Сярэдняя зарплата вышэй за 5 мільёнаў рублёў у маі была зафіксаваная ў 36,5% арганізацый ад іх агульнага ліку.

У 3 833 арганізацый заробак больш як 6 мільёнаў рублёў.

У маі сярэдняя рэспубліканская заработная плата ў Беларусі 6,69 мільёна рублёў. Яна павялічылася ў параўнанні з красавіком на 151,5 тысячы рублёў.

Разам з тым рэальная (з улікам інфляцыі) заработная плата з пачатку года ў Беларусі знізілася на 7,7%, сведчаць даныя афіцыйнай статыстыкі. Значнае зніжэнне рэальнай заработнай платы адбылося ва ўсіх рэгіёнах краіны.

**БелаПАН.**

ЛІЧБА НУМАРА

**40** мільярдаў рублёў

спатрэбіцца Маладзечанскаму раёну, каб купіць паліва і аліву для ўборачнай

Закупяць:
2 140 тон дызпаліва
165 тон бензіну

Паводле начальніка ўпраўлення сельскай гаспадаркі і харчавання Маладзечанскага райвыканкама Мікалая Каткаўца.

Інфаграфіка Галіны СІНІЦЫ.

| Курсы валют НБ РБ | 25.06 | 2.07 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 15 378,00 | **15 357,00** |
| Еўра | 17 248,00 | **17 056,00** |
| Злоты | 4 151,51 | **4 086,67** |
| Расійскі рубель | 284,23 | **276,75** |
| Грыўня | 710,25 | **730,14** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне 1.07** | | |
| Еўра | 17150/17400 | **16950/17190** |
| Долар ЗША | 15300/15480 | **15250/15400** |

**Цэны на рынку** (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 24.06 | 1.07 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| Кілбаса с/вэндж., 1 кг | 139900 | **139900** |
| Сасіскі, 1 кг | 53750 | **53750** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 28700 | **28700** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 70000 | **70000** |
| Мінтай свежамарожаны, 1 кг | 37800 | **37300** |
| Селядзец, 1 кг | 48000 | **54000** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 115000 | **115000** |
| Рыс, 0,9 кг | 14000 | **14000** |
| Грэчка, 0,8 кг | 13700 | **13700** |
| Яйкі курыныя, 1 дзясятак | 12000 | **12000** |
| Алей "Дзіўны", 1 л | 18500 | **18500** |
| Маянэз, 200 г | 4900 | **4900** |
| Соус "Мінскі", 0,5 л | 14500 | **14500** |
| Кава "Nescafe", 100 г | 35000 | **35000** |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 12500 | **12500** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 11900 | **11900** |
| Капуста, 1 кг | 7900 | **6500** |
| Морква, 1 кг | 19900 | **17000** |
| Буракі, 1 кг | 17500 | **13000** |
| Лімоны, 1 кг | 29900 | **34500** |
| Апельсіны, 1 кг | 17900 | **17900** |
| Мандарыны, 1 кг | 29900 | **29900** |
| Грэйпфруты, 1 кг | 32000 | **35000** |
| Ківі, 1 кг | 39500 | **39500** |
| Нектарыны, 1 кг | 34500 | **34500** |
| Абрыкосы, 1 кг | 25000 | **38000** |
| Клубніцы, 1 кг | 23000 | **28000** |
| Чарэшні, 1 кг | 35000 | **35000** |
| Памідоры, 1 кг | 18500 | **18500** |
| Агуркі, 1 кг | 7000 | **6000** |
| Перац, 1 кг | 46500 | **46500** |
| Вінаград, 1 кг | 35000 | **49900** |
| Бананы, 1 кг | 17500 | **17500** |
| Кавун, 1 кг | - | **12000** |
| Дыня (тарпеда), 1кг | - | **20000** |
| Яблыкі, 1 кг | 15900 | **15900** |
| Грушы, 1 кг (Дзюшэс) | 29500 | **29500** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 15000 | **15000** |
| Масла, 1 кг | 100000 | **100000** |
| Тварог, 1 кг | 55000 | **55000** |
| Бульба маладая, 1 кг | 11900 | **11900** |
| Сала, 1 кг | 90000 | **90000** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 20000 | **20000** |
| Мёд, 0,5 л | 55000 | **55000** |

КРЫМІНАЛ

# Пасажыр спрабаваў задушыць таксіста

МАЛАДЗЕЧНА

**Здарэнне адбылося апоўначы 30 чэрвеня на вуліцы Лебедзеўскай у Маладзечне.**

У міліцыю патэлефанаваў 27-гадовы кіроўца таксі і паведаміў, што пасажыр накінуў на яго рэмень і пачаў душыць.

Супрацоўнікі міліцыі, што прыбылі на месца здарэння, затрымалі 37-гадовага машыніста "Маладзечнабудматэрыялаў", жыхара вёскі Палачаны.

Пра падрабязнасці здарэння "Рэгіянальнай газеце" расказаў следчы Маладзечанскага РАСК **Дзмітры Якаўлеў**:

– Пасля здарэння кіроўца таксі расказаў, што пасажыр сеў у машыну на чыгуначным вакзале. Усю дарогу да вуліцы Лебедзеўскай ехаў моўчкі. Гэтак жа моўчкі дастаў рэмень са сваіх штаноў і ззаду накінуў на шыю кіроўцу і стаў душыць. Той адной рукой спрабаваў вызваліцца, а другой націснуў на аўтамабільны сігнал.

Прахожы заўважыў, што адбываецца ў машыне, адкрыў пасажырскія дзверы і выцягнуў зламысніка. Пакуль вадзіцель таксі выклікаў міліцыю, трымаў хулігана. Сёння 37-гадовы нападнік не змог патлумачыць прычыну свайго ўчынку.

Вядома, што ў момант здарэння ён быў вельмі п'яны.


Фота img.gazeta.ru.

Пасажыр знянацку накінуў рэмень на шыю кіроўцы і пачаў душыць.

## Таксіст: "Адразу прамільгнула думка, няўжо на гэтым жыццё і скончыцца"

Вечар 30 чэрвеня для таксіста **Ігара**, якога хацеў задушыць нецвярозы пасажыр, мог скончыцца трагічна. І ўсе абставіны былі супраць яго.

Пасля адпачынку ён павінны быў выходзіць на працу толькі 1 ліпеня, але вырашыў пайсці папрацаваць у ноч. Ноччу ў службе таксі, у якой працуе Ігар, працаваў толькі адзін таксіст. І, калі б і захацеў яго паклікаць на дапамогу, наўрад ці гэта атрымалася б.

У размове Ігар уздыхнуў і сказаў: "Ведаеце, лепей два ці тры разы атрымаць па мордзе, чым перажыць такое"...

Пераказваць эмоцыі чалавека, які знаходзіўся за некалькі крокаў ад смерці, мы не будзем. Проста дадзім яму выказацца:

"Учора вечарам я стаяў у чарзе разам з іншымі таксістамі на чыгуначным вакзале. У 23:45 прыйшла электрычка, мае калегі разабралі пасажыраў. Тут з боку камер захоўвання падышоў чалавек, папрасіў адвезці яго на Лібава-Роменскую, да сталовай.

**Я яшчэ падумаў: чаго гэта ён абышоў машыну і сеў ззаду за мной.**

Але сеў у машыну і паехаў. Каля сталовай спыніўся і спытаў, дзе высадзіць, ён адказаў, што едзем далей. Усю дарогу ён нешта мармытаў пад нос, бубніў. Калі звярнулі на вуліцу Лебедзеўскую, ён раптам накінуў на мяне свой рэмень. Я разгубіўся, спалохаўся. У мазгах прамільгнула думка, што на гэтым можа быць усё. Стала зразумела, што трэба змагацца за жыццё ўсімі сіламі. Нейкімі неверагоднымі намаганнямі перакінуў рэмень з шыі на падбародак. Я важу з сабой газавы балончык, але нашто той балончык, калі абедзве рукі занятыя. Так, ёсць дыспетчар, але як сказаць ёй, што са мной бяда, калі рэмень душыць шыю, а на плячах усёй вагой вісіць мужык.

...Я заўважыў, што з дому выйшаў чалавек з вядром смецця, і наваліўся на сігнал. Хацеў прыцягнуць яго ўвагу. А той глядзіць на мяне і не разумее, што адбываецца ў салоне. Ноч, і фары ўключаныя. Раптам з таго ж двара выехала машына, якая асвяціла салон, і стала бачна, што там робіцца. Мужчына з вядром смецця кінуўся мяне ратаваць. Разам скруцілі таго мужыка, трымалі, пакуль прыехала міліцыя. Пасля я спытаўся, як завуць ратавальніка і як з ім звязацца. Мужчына адказаў: "Ну прыдумаў, жыві спакойна і радуйся жыццю".

Ігар працуе таксістам ужо дзявяты год. І такога раней ніколі не здаралася.

– І памяняў бы, здаецца, працу, але дзе тут знойдзеш яе чалавеку з вышэйшай інжынернай адукацыяй. А сям'ю карміць трэба. Таму буду засцерагаць сябе. Больш ніколі не павязу пасажыра на заднім сядзенні. І прыдумаю што-небудзь з крэслам, каб адкідвалася аўтаматычна.


Наталля ТУР
natali.turenok@gmail.com
044-566-26-99 (працоўны)

ДА ДНЯ ПРАФІЛАКТЫКІ АЛКАГАЛІЗМУ

# Як Беларусі спыніць лідарства па ўжыванні алкаголю

**Беларусь займае лідзіруючыя месцы ў свеце па ўжыванні алкаголю.**

Згодна са статыстыкай, больш за 50% суіцыдаў адбываецца ў стане алкагольнага ап'янення.

А ўсё пачынаецца вельмі проста. Спачатку чалавек ужывае алкаголь па святах дома ў коле сям'і, потым з сябрамі, далей з выпадковымі знаёмымі, а затым з самім сабой.

Такія людзі алкаголікамі сябе не лічаць і думаюць, што заўсёды змогуць спыніцца. Алкаголь – гэта фактычна дазволены недарагі наркотык.

Алкаголь разбурае ўвесь арганізм чалавека.

Вельмі часта нараджаюцца дзеці з цяжкімі паракамі развіцця. У п'ючых сем'ях дзеці часта ідуць па слядах бацькоў.

**"Беднасць і злачынства, нервовыя і псіхічныя хваробы, выраджэнне нашчадкаў – вось што робіць алкаголь". Уладзімір Бехцераў.**

Падлеткавы алкагалізм – самая актуальная праблема сёння. Ужыванне алкаголю дзецьмі павялічваецца. Нормай лічыцца ўжыванне спіртнога ў выхадныя дні, пры сустрэчы з сябрамі.

Часцей за ўсё маладыя п'юць піва і слабаалкагольныя напоі. Менавіта яны прыводзяць да хуткага развіцця алкагольнай залежнасці.

Прафілактыка алкагалізму павінна пачынацца з дзіцячага і падлеткавага ўзросту.

На ўзроўні сям'і – здаровы лад жыцця бацькоў, рацыянальнае харчаванне, адмова ад алкаголю ў сям'і, захоўванне рэжыму сну, правільна арганізаваны адпачынак, спорт, даверлівыя адносіны і антыалкагольнае выхаванне.

На ўзроўні школы – даверлівы кантакт настаўніка з вучнямі, педагагічны такт, прапаганда здаровага ладу жыцця, гутаркі, арганізацыя вольнага часу школьніка.

На ўзроўні дзяржавы – забарона рэкламы алкагольных напояў, забарона продажу алкаголю дзецям да 18 гадоў, абмежаванне часу продажу алкаголю, крымінальная адказнасць за ўцягванне непаўналетніх у п'янства.

Па дапамогу і кансультацыю звяртайцеся на адрас: *Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 58, Маладзечанскі псіханеўралагічны дыспансер.* Тэлефон рэгістратуры **(80176) 58-04-05.**

**Ірына УЛАСІКАВА, доктар-псіхіятр-нарколаг, загадчыца наркалагічнага аддзялення псіханеўралагічнага дыспансера.**

БРАКАНЬЕРСТВА

# За незаконную рыбалку пагражае шэсць год турмы

ВІЛЕЙКА

**12 чэрвеня каля вёскі Сосенка затрымалі двух віляйчан, якія з выкарыстаннем забароненых рыбалоўных сетак незаконна здабылі 42 рыбіны.**

Хаця агульная вага рыбы восем кілаграмаў, парушальнікам давядзецца заплаціць амаль 12 мільёнаў рублёў за шкоду навакольнаму асяроддзю, плюс дзевяць мільёнаў рублёў штрафу.

Яшчэ менш удалай выдалася рыбалка для аднаго жыхара Вілейскага раёна. Паставіўшы чатыры рыбалоўныя сеткі на Вілейскім вадасховішчы, каля Касуты, ён злавіў нямала рыбы, але не чакаў, што на беразе сустрэнуць работнікі інспекцыі. У мужчыны налічылі амаль 60 рыбін, сярод якіх 38 судакоў. Яны важылі на 33 кілаграмы.

Шкоду навакольнаму асяроддзю налічылі на 47 мільёнаў рублёў. У рабылова забралі спецыяльнае абсталяванне – сеткі і лодку. На месца здарэння выклікалі міліцыянераў. Браканьер прычыніў шкоду ў асабліва буйным памеры, таму ў адносінах да яго ўзбудзілі крымінальную справу. Яму пагражае да шасці год пазбаўлення свабоды.

Калі ў вас узніклі пытанні наконт аховы дзікіх жывёл, рыбы, лясоў, тэлефануйце ў Мядзельскую міжрайінспекцыю па нумары **(801797) 50-7-40** ці звяртайцеся на тэлефон даверу дзяржаўнай інспекцыі **(8017) 390-00-00.**

**Уладзімір ХІЛА, старшы дзяржаўны інспектар Мядзельскай міжрайінспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.**

ЗДАРЭННІ

## Смаргонцы скралі 129 туй, але бізнес па іх продажы не заладзіўся

СМАРГОНЬ

Прадаць скрадзеныя туі жыхары Смаргоні спрабавалі на мясцовым рынку, але за два дні гандлю так ніхто іх не купіў.

– Лесагадавальнік знаходзіцца непадалёк ад месца жыхарства падазраваных, – распавялі ў прэс-службе УУС Гродзенскага аблвыканкама. – Мужчынам спатрэбілася няшмат часу, каб вырваць больш за сотню невялікіх дэкаратыўных раслін і схаваць іх непадалёку ад месца жыхарства. На рынку ў Смаргоні мужчыны гандлявалі туямі. Яны прапаноўвалі жыхарам горада набыць насаджэнні на свой участак.

У выніку хтосьці паскардзіўся на "прадпрымальнікаў" участковаму, той праверыў у мужчын дакументы аб паходжанні раслін – іх, зразумела, не аказалася. Падазроным пагражае да чатырох гадоў пазбаўлення волі. А туі вярнулі ў лесагадавальнік – іх высадзілі на ранейшае месца.

**Паводле auto.onliner.by.**

## ДТЗ на Астравеччыне: тры чалавекі пацярпелі

АСТРАВЕЦ

29 чэрвеня а сёмай вечара ў пяці кіламетрах ад вёскі Вераб'і на дарозе Вільня-Полацк адбылося дарожна-транспартнае здарэнне.

Кіроўцу і дваіх пасажыраў прыйшлося дэблакаваць. Іх з траўмамі рознай ступені цяжкасці шпіталізавалі.

Па папярэдніх звестках, кіроўца "Пежо-406" рухаўся ў накірунку вёскі Вераб'і, не справіўся з кіраваннем, з'ехаў у кювет, перакуліўся і стукнуўся ў дрэва.

**Паводле Міністэрства па надзвычайных сітуацыях.**

## Літовец фатаграфаўся на мяжы і незаконна перайшоў яе

АШМЯНЫ

Вечарам 24 чэрвеня ў Ашмянскім раёне затрымалі парушальніка дзяржаўнай мяжы. Ім аказаўся 33-гадовы літовец.

Як патлумачыў жыхар Каўнаса, ён на машыне разам з дзяўчынай пад'ехаў да пункта спрошчанага пропуску. Там зладзіў фотасесію на фоне беларускай тэрыторыі, якую вырашыў эфектна завяршыць здымкам на фоне памежнага знака Беларусі.

Калі мужчына падыходзіў да знака, то не заўважыў, як перайшоў мяжу.

Непадалёк быў пагранічны атрад, які і затрымаў літоўца. Мужчыну аформілі парушальнікам мяжы і пасля выплаты штрафу перадалі літоўскім праваахоўнікам.

**Паводле Дзяржаўнага пагранічнага камітэта Беларусі.**

ЗАХАПЛЕННІ

# У яе столькі спраў, што няма часу хварэць

МАЛАДЗЕЧНА

**З хваляваннем званю ў дзверы. На парозе з усмешкай мяне сустракае мама 11-гадовай Віялеты Банковіч Таццяна, таму што сама дзяўчынка некалькі гадоў не можа хадзіць.**


Фота аўтара.

Віялета Банковіч на конкурсе, дзе спявала песню прынцэсы Эльзы з мультфільма "Халоднае сэрца".

Хвароба не перашкаджае займацца любімымі відамі творчасці, удзельнічаць у конкурсах, мець шмат сяброў.

Значнай падзеяй у жыцці **Віялеты** стаў абласны фестываль "Музыка дзіцячай душы". Для выступлення дзяўчынка абрала песню "Let it go" з любімага мультфільма "Халоднае сэрца".

– Я часта спявала гэту песню дома ў караоке, і яна атрымлівалася ў мяне лепш за ўсе іншыя. А адрэпеціраваць нумар дапамагла настаўніца музыкі СШ №8 **Марына Шавялёва**, – распавяла Віялета.

Стварэннем вобразу занялася мама. Яна ўклала густыя доўгія валасы дачкі і прапанавала надзець сваю сукенку, якая падобная на убор юнай прынцэсы Эльзы з мультфільма.

Дэбютнае выступленне прынесла масу яркіх эмоцый, пахвалу журы і дыплом другой ступені. Ён заняў сваё месца сярод узнагарод, большасць з якіх звязаныя з дэкаратыўна-прыкладной і выяўленчай творчасцю. Двойчы на тыдзень да юнай рукадзельніцы прыходзіць педагог цэнтра творчасці "Маладзік" **Таццяна Рамановіч**.

– Паглядзіце, якую прыгажосць мы сёння зрабілі! – ўсклікнула Віялета, працягваючы мне жоўтую кветку з атласнай стужкі.

І за што б ні ўзялася дзяўчынка – валенне, дэкупаж, пап'е-машэ, бісерапляценне – заўсёды ў яе руках нараджаюцца выдатныя работы. Напоўненыя дабрынёй і любоўю вырабы наша гераіня дорыць сваім бабулям, цёткам, сёстрам і сяброўкам.

Асаблівае захапленне Віялеты – каты, прычым чорныя. І гэта любоў адлюстроўваецца ў яе працах. Няхай гэта будзе калядны мурлыка, звалены з воўны, або статуэтка ў выглядзе ката са звычайнай пластыкавай бутэлькі. Натхняе рукадзельніцу яе хатні гадаванец Рыжык. Дзяўчынка вельмі любіць жывёл. Вы б бачылі, як заблішчэлі яе вочы, калі яна загаварыла аб сваёй вялікай калекцыі поні:

– Збіраць фігуркі конікаў і розныя рэчы з іх малюнкам я пачала пасля таго, як паглядзела мультфільм "Мой маленькі поні". Здаецца, што менавіта гэты персанаж самы прыязны.

У Віялеты шмат сяброў, з якімі часта бачыцца. Яна знаёмая практычна з усімі дзецьмі з двара. Як толькі на вуліцы з'яўляецца вазок, дзеці абступаюць дзяўчынку з усіх бакоў.

Кожную вольную хвіліну Віялета надае любімаму занятку – маляванню. І сябруе не толькі з алоўкамі і фламастарамі, але і з камп'ютарам. Нядаўна яна асвоіла праграму, з дапамогай якой яшчэ цікавей ўвасабляць свае фантазіі. Захапленне зарадзіла мару стаць у будучыні прафесійным мультыплікатарам.

**Юлія СТРЫГА,**
**школа журналістыкі "Маладзік".**

ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ СЯРОД МОЛАДЗІ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

## Ці спрабаваў ты самастойна зарабляць? На што трацiш грошы?



**Варвара Конік,**
**вучаніца гімназіі №6:**
– Свае першыя грошы я зарабіла ў 11 гадоў, выйграўшы спаборніцтвы па конным спорце. Усе заробленыя і атрыманыя ў падарунак грошы я аддаю на свайго каня Рэфлекса і на амуніцыю для заняткаў спортам.



**Ілля Кузін,**
**вучань гімназіі №10:**
– Неяк я развешваў аб'явы на пад'ездах. За дзень можна атрымаць каля 100 тысяч, гэта залежыць ад таго, колькі аб'яў развесіш. На свае грошы я часта куплю кнігі і часопісы, цікава пачытаць.



**Ксенія Рагель,**
**навучэнка школы журналістыкі "Маладзік":**
– Некалькі разоў я атрымлівала ганарары за публікацыі ў газетах. Прыемна, калі твая інтэлектуальная дзейнасць аплачваецца. Грошы я патрацiла на падрыхтоўку да выпускнога балю.



**Ліза Яновіч,**
**вучаніца СШ№8:**
– Улетку я ездзіла ў вёску да бабулі, збірала чарніцы, а потым прадавала. Я трачу кішэнныя грошы на розныя ласункі, падарункі бацькам і сябрам.



**Ефрасіння Івашкевіч,**
**вучаніца гімназіі №10:**
– Я прадстаўнік бізнэс-кампаніі "Поспех" цэнтра творчасці дзяцей і моладзі. Мы прадаём розныя сувеніры, паштоўкі, зробленыя сваімі рукамі. Тое, што зарабляю, часцей за ўсё трачу на ўпрыгожванні. А яшчэ я калекцыяную розныя цацкі ў форме качкі.



**Вольга Клімянок,**
**вучаніца гімназіі №7:**
– Пасля ўрокаў мы з дзяўчынкамі заставаліся і шылі касцюмы для танцавальнага гуртка. Заробленыя грошы пайшлі на падарункі для родных.



**Паліна Плакса,**
**вучаніца СШ№14:**
– Я не люблю траціць грошы, я іх збіраю. Раней збірала на тэлефон, а цяпер – на планшэт.

**Падрыхтавала Яна БАШЫНСКАЯ,**
**навучэнка школы журналістыкі "Маладзік".**

МУЗЫКА

# Пераможца беларускай "фабрыкі зорак" пакарыў суддзяў лірычным барытонам

МАЛАДЗЕЧНА

**Кожны дзень па тры гадзіны ён іграе Баха, Шапэна, Рахманінава. Гукі, якія вылятаюць з-пад чорных і белых клавішаў, плаўна напаўняюць пакой музычнымі гісторыямі розных эпох.**



Фота з архіва Івана Кабыльчанкі.

Яшчэ выхавальнікі ў дзіцячым садку заўважылі, што ў хлопчыка добры голас. У шэсць гадоў мама аддала яго ў музычную школу:

– Штосьці давалася з цяжкасцю, часам прагульваў сальфеджыа, але пры гэтым адзнакі заўсёды былі добрыя. Дзякуючы майму педагогу па фартэпіяна **Галіне Купрыеўскай** я і палюбіў музыку.

Самыя яркія ўспаміны таго часу звязаныя з заняткамі ў хоры, дзе Іван саліраваў. Калектыў хлопчыкаў "Пеўнікі" штогод станавіўся лаўрэатам міжнародных конкурсаў і фестываляў.

– Займацца пад кіраўніцтвам **Вольгі Бялько** было адно задавальненне, – прыгадвае юнак. У сакавіку малады піяніст вярнуўся з Брэста і прывёз дыплом першай ступені з міжнароднага конкурсу імя Святаслава Рыхтэра. У Івана выдатны лірычны барытон. Гэта адзначылі і суддзі рэспубліканскага праекта "Звонкая Раніца", у якім ён стаў пераможцам.

– Я рады, што трапіў на беларускую "фабрыку зорак", – распавядае хлопец. – Цэлы месяц мы правялі ў "Зубраняці" на Мядзельшчыне, займаліся з прафесіяналамі.

Цяпер Іван вучыцца ў Маладзечанскім музкаледжы. Сваім аднагодкам жадае знайсці верны шлях у жыцці.

**Аліна КАБЫЛЬЧАНКА,**
**школа журналістыкі "Маладзік".**

ПАМЯЦЬ

# Кіраўнік дыпмісіі Украіны ўшанаваў памяць лётчыкаў з "вогненных" экіпажаў

МАЛАДЗЕЧНА

**Падзея ля абеліска экіпажам Гастэлы і Маслава, якія загінулі 26 чэрвеня 1941 года ў небе над Радашкавічамі, адбылася ў пятніцу, 26 чэрвеня, у 74-ю гадавіну подзвігу.**


Фота Аляксандра МАНЦЭВІЧА.

Кіраўнік дыпмісіі Украіны ў Беларусі Валеры Джыгун і вайсковы аташэ Аляксандр Васільеў перад ускладаннем вянка да абеліска Гастэлу.

Кіраўнік амбасады Украіны ў Беларусі дарадца-пасланнік **Валеры Джыгун** і вайсковы аташэ дыпмісіі **Аляксандр Васільеў** усклалі вянок да абеліска лётчыкам-героям, якія тут загінулі ў самым пачатку Вялікай Айчыннай вайны.

У экіпажы Гастэлы лётчыкам-назіральнікам служыў украінец, ураджэнец Чарнігаўшчыны, лейтэнант **Рыгор Скарабагаты**.

У цырымоніі ўдзельнічалі таксама старшыні Маладзечанскага раённага Савета **Віктар Невяровіч** і Радашкавіцкага пассельвыканкама **Віктар Неказакаў**, прадстаўнікі дыяспары украінцаў з Мінска, Маладзечна, Радашкавічаў.

У сваёй прамове перад прысутнымі пан Джыгун сказаў, што ў гэтыя цяжкія для Украіны дні вельмі важна шанаваць мір. Украінцы, па словах дыпламата, удзячныя Беларусі за тую пазіцыю, якую яна заняла ў адносінах да падзей на ўкраінскім усходзе, і праяўляе ўсе намаганні да ўрэгулявання канфлікту.

Пасля ўрачыстасці была наладжаная вечарына ў школе-інтэрнаце імя Мікалая Гастэлы ў Радашкавічах.

Дырэктар школы **Ігар Дзятлоўскі** правёў экскурсію па класах і школьным музеі агняных і паветраных таранаў:

– У нас, канешне, больш цікава праводзяць экскурсіі вучні, але цяпер яны амаль усе раз'ехаліся на адпачынак – хто ў Італію, хто ў Іспанію. Засталося толькі трое дзяцей. Але і яны заўтра адлятаюць.

Стваральнікі музея зыходзілі з таго, што хаця імя Мікалая Гастэлы і стала увасабленнем паветранага подзвігу, насамрэч трэба гаварыць і аб подзвігу экіпажа Маслава, іншых герояў. Толькі над Маладзечаншчынай здзейснена каля двух дзясяткаў вядомых сёння таранаў.

У спісе герояў ёсць і ўраджэнец Украіны Рыгор Скарабагаты, памяць пра якога разам з памяццю яго аднапалчан, іншых лётчыкаў-чырвонаармейцаў ушанавалі ў гадавіну трагедыі незадоўга да Дня вызвалення Беларусі ўкраінцы.

Школа мае 50-гадовую гісторыю. Некалі была адной у сістэме школ-інтэрнатаў для дзяцей сірот. Цяпер такая засталася адна, сказаў гасцям кіраўнік установы:

– Палітыка нашай дзяржавы накіраваная на тое, каб дзеці выхоўваліся ў сем'ях.

Нехта з украінскіх гасцей у канцы сустрэчы пажадаў: "Канешне, гэта гучыць быццам бы нетактоўна, але жадаем беларусам, каб такіх школ праз некаторы час не было ўвогуле". Госці, вядома, мелі на ўвазе тое, што сапраўдную цеплыню для дзіцяці можа стварыць толькі сям'я.

Школа ўстанавіла шматлікія міжнародныя кантакты. Штогод у гасцях выхаванцаў установы бываюць замежныя госці. Першага чэрвеня, напрыклад, у Дзень абароны дзяцей, школу традыцыйна наведвае пасол Германіі. Дзяцей запрашаюць на дабрачынныя калядныя ранішнікі, якія ладзіць клуб жонак кіраўнікоў дыпмісій. Удзельнікі сустрэчы выказалі ўзаемную надзею, што кантакты між украінскім пасольствам, украінцамі Беларусі і школай-інтэрнатам будуць мацнець.

**Аляксандр МАНЦЭВІЧ.**

**Больш фота на сайце**




ВЫСТАВЫ

## Фатограф: "Рабіў фотаздымкі – акопы і бліндажы быццам гулялі ў хованкі"

ВІЛЕЙКА

**Сумняваецеся, што можна ўбачыць нябачнае. Але гэта сапраўды так – нябачнае можна нават памацаць рукамі.**

Ідэю паказаць нябачныя сляды Першай сусветнай рэалізаваў 40-гадовы фатограф з Пастаўшчыны **Андрэй Мацур**. У яго работах паказаныя вайсковыя могілкі, акопы, траншэі, рэшткі дроту і іншае. Здымаў ён на Вілейшчыне, Мядзельшчыне, Смаргоншчыне, Браслаўшчыне.

Фатограф і цяпер не спыняе працу над праектам.

– Я зрабіў больш за тысячу фотаздымкаў па гэтай тэме, цяпер нават перастаў лічыць, – прызнаецца фатограф. – На выставе паказаная толькі невялічкая частка – 40 работ.

### Вывучаў гісторыю, каб зрабіць праект

Штуршок да стварэння серыі даў фатограф з Мінска **Сяргей Качаргін**, які прапанаваў захаваць сляды Першай сусветнай, пакуль тыя не зніклі.

Перш чым пачаць працу, Андрэй стаў грунтоўна вывучаць гісторыю Першай сусветнай: перагледзеў шмат стужак пра вайну, пазнаёміўся з людзьмі, якія вывучаюць гэты час. Сярод іх гісторык **Уладзімір Багданаў**, удзельнікі ваенна-гістарычнага клуба "Сябры па зброі", кіраўнік фонду памяці Першай сусветнай вайны ў Вілейцы **Барыс Цітовіч**. І толькі пасля гэтага рушыў па лясах, побач з вёскамі, дзе праходзіла лінія фронту, у пошуках акопаў, бліндажоў.

Але гэта, лічыць фатограф, было нескладана, нашмат цяжэй зрабіць якасныя фотаздымкі месцаў, якія захоўваюць памяць пра Першую сусветную.

– Акопы і бліндажы быццам гулялі са мной у хованкі, – прызнаецца мужчына. – Доўгі час падбіраў ракурс, чакаў пэўнага асвятлення. Таму гэта справа ў нечым нагадвала паляванне. Але паляванне не ў літаральным сэнсе, а за гісторыяй.

Як лічыць Андрэй Мацур, помнікі нябачнымі робіць людская абыякавасць да свайго мінулага. Аднак ён спадзяецца, што калісьці месцы, дзе праходзілі баі, стануць помнікамі.

### Удзельнічае ў добраўпарадкаванні помнікаў

– Пасля знаёмства з людзьмі, якія вывучаюць, цікавяцца гісторыяй Першай сусветнай, у мяне ўзнікла неабходнасць пакінуць не толькі фотаздымкі, але і нешта больш адчувальнае, – адзначае фатограф. – Напрыклад, я ўдзельнічаю ў добраўпарадкаванні трох вялікіх ваенных пахаванняў на Пастаўшчыне: у вёсках Лапуці, Пятроўшчына і каля возера Чвэрць. І сёння работы працягваюцца. Мы збіраемся з аднадумцамі, вывучаем архівы, звязаныя з Першай сусветнай, размаўляем з мясцовым насельніцтвам, якое ведае пра гэты час.

Выстава "Нябачныя сляды вайны" будзе праходзіць у Вілейцы да 8 ліпеня ў выставачнай зале імя Сілівановіча.

**Галіна СІНІЦА.**

СУСТРЭЧЫ

## Жыхары Філіпак з'едуцца 4 ліпеня ў родную вёску

МЯДЗЕЛ

**Пра сустрэчу аднавяскоўцаў "Рэгіянальнай газеце" расказаў Мар'ян Якубовіч:**

– Сёлета наша вёска святкуе 245-годдзе. Урачыстасці, прысвечаныя гэтай даце, адбудуцца ў жніўні, мы ж з аднавяскоўцамі вырашылі сабрацца пасля фэсту ў Будславе, каб успомніць тое, што звязвала і звязвае нас з вёскай.

На здымку, што Мар'ян Якубовіч прынёс у рэдакцыю, вучні пачатковай школы ў Філіпках. Фотаздымак зроблены ў 1959 годзе.

– Цікава, што многія з тых, хто тут сфатаграфаваны, збяруцца і ў гэтым годзе. Шмат каму ўжо даўно за 60 гадоў. Я прапаную аднавяскоўцам сфатаграфавацца таксама, як і 56 гадоў таму. А потым мы параўнаем гэтыя два здымкі.

**Наталля ТУР.**


Фота з архіва Мар'яна ЯКУБОВІЧА.

На фотаздымку 1959 года вучні пачатковай школы ў Філіпках.

СВЯТА

## Гурт "Стары Ольса" выступіць на Купаллі ў Залессі

СМАРГОНЬ

**Свята пройдзе ў ноч з 6 на 7 ліпеня ў парку Залескага Дома культуры.**

Пачнецца свята з шэсця па Залессі ў 20:00.

– Галоўным сюрпрызам стане выступленне гурта "Стары Ольса", – расказала "Рэгіянальнай газеце" дырэктар Залескага Дома культуры **Вераніка Шчуроўская**.

Яшчэ гасцей свята чакае вогненнае шоу, будзе працаваць горад майстроў.

Усе ахвотныя змогуць наведаць майстар-клас па пляценні купальскіх вянкоў.

Хаця ўваход на свята платны, ён будзе каштаваць 50 тысяч рублёў, арганізатары паведамілі, што той, хто прыйдзе ў народным строі, зможа прайсці бясплатна.

Свята будзе доўжыцца да трох гадзін ночы. Ноччу прысутных чакаюць пошукі кветкі папараці, святочнае вогнішча, начная дыскатэка пад адкрытым небам.

**Аддзел інфармацыі.**

# Пераможца Максім Пашук: **Толькі не выконвайце вясельных песень**

АШМЯНЫ

**У суботу, 27 чэрвеня, у Ашмянах вызначылі ўладальніка Гран-пры XVII фестывалю-конкурсу “Адна зямля”. Ім стаў смаргонец Максім Пашук.**

– Калі ехаў у Ашмяны, я адчуў, што перамагу, але ўсё роўна сумняваўся да таго моманту, пакуль журы не назвала маё імя.

Для выканання ў конкурсе Максім выбраў песню **Анатоля Ярмоленкі** “Каханая” і песню з рэпертуару **Андрэя Бандэры**.

– Песні “Сябры” і “Песняры” я люблю з дзяцінства. А фанаграму песні “Каханая” **Анатоль Ярмоленка** выслаў мне на электронную пошту асабіста з прыпіскай: “Ты – добры хлопец, выконвай песню і больш да мяне не чапляйся”.

У “Адной зямлі” Максім прымаў удзел чатыры гады таму, тады ён заняў другое месца.

– З таго часу зразумеў, што спяваць пра Беларусь неабавязкова і выбіраць вясельны рэпертуар не трэба. На гэтым конкурсе я пасябраваў з **Уладзімірам Высоцкім** з Вілейкі. Ён вельмі добры вакаліст, але песня Стаса Міхайлава, якую ён выконваў, мне здаецца, не для гэтага конкурсу. Хаця я сам папрасіў ва Уладзіміра яго фанаграму.



Максім Пашук, уладальнік Гран-пры фестывалю “Адна зямля”

## Антон Антонаў: **мару спець са спеваком Тэа**

Пераможца конкурсу ў малодшай узроставай групе **Антон Антонаў** са Смаргоні пасля перамогі ў конкурсе “Адна зямля” збіраецца ехаць на “Славянскі базар”.

– Там адбудзецца конкурс “Вясёлка над Віцебскам”. І ў Віцебску будзе мой 8 ці 9 конкурс. Але “Адна зямля” запомніцца мне тым, што конкурс адбываўся на вуліцы. Не ў памяшканні спяваць лягчэй.

Антон расказаў пра тое, што больш за ўсё любіць спяваць і слухаць джаз.

– Я спяваю ўвесь час, – смяецца Антон, – мне мама ўжо гаворыць: “Можна цішэй”.

На конкурсе “Адна зямля” Антон пасябраваў з выканаўцам з Вілейкі **Віталем Рогачам**:

– Хаця пакуль не абвясцілі вынікі конкурсу, я лічыў Віталіка сваім адзіным канкурэнтам у нашай узроставай групе.

А марыць Антон пра тое, каб спець са спеваком **Тэа:**

– Мне здаецца, мы з ім у нечым падобныя. Цікава было б паспрабаваць спець з ім дуэтам.

## Будзьце ўнікальныя, няхай іншыя капіруюць вас

Старшыня журы выкладчыца Гродзенскага дзяржаўнага музычнага каледжа **Марына Петухова** падсумавала вынікі конкурсу.

– Агульны ўзровень конкурсу сярэдні. Былі як яркія выканаўцы, так і тыя, насупраць прозвішчаў якіх я для сябе пазначала, што слухаць іх сумна і нецікава.

Калі гаварыць пра найбольш яркія выступленні, то Марына Маркаўна вылучае выступленне Антона Антонава:

– У гэтага хлопчыка голас палётны і вельмі гнуткі. Ён можа быць як эстрадным выканаўцам, так і акадэмічным. Прыемна было глядзець, што ён на сцэне паводзіць сябе свабодна.

Запомніліся Марыне Петуховай і выканаўцы з Маладзечна.

– Ну, Маладзечна – гэта заўсёды дзіва-горад. Ужо каторы год выканаўцы з гэтага горада дэманструюць выдатныя вынікі. Шыкоўнае мецца-сапрана ў **Марыны Субач**, але я ёй раіла галосныя гукі на стыку слоў раздзяляць.

Уразіла журы і **Элада Колерава**.

– Прыгажуня! Я не магла адарваць вачэй ад яе. Для мяне – гэта лепшы сцэнічны вобраз. Усё было прадумана да дробязяў. Аднак у яе голасе я чула стомленасць. Відаць, што Элада многа выступае, досвед вельмі адчуваецца, але яе галасавыя звязкі настолькі стомленыя, што я чула яе сіпатасць.

Марына Петухова дадала і лыжачку дзёгцю.

– Вельмі спадабаліся дзяўчынкі з Маладзечна **Паліна Захарчанка** і **Дыяна Бажко**. Але першай не хапіла сцэнічнай пластыкі, а Дыяна выбрала няўдалы фасон сукенкі. Пра такія рэчы сапраўднаму артысту таксама трэба думаць.

Вельмі засмуціла журы тое, што некаторыя выканаўцы выбіралі рэпертуар, які зусім не падыходзіць для іх узросту.

– Вельмі недарэчна глядзіцца, калі 11-гадовая дзяўчынка выконвае песню “Моя бабушка курит трубку”. Але наколькі прыемна слухаць, калі выканаўца разумее, пра што спявае. Так адбылося з уладальнікам Гран-пры Максімам Пашуком. Ён скарыў журы сваёй багатай прыродай. Яму не трэба была тэатральная пастаноўка нумара. Ён усё, што хацеў сказаць, уклаў у музычнасць, у тэмбр. Другая песня была крыху рэстаранная, але мы, журы, рабілі высновы ўжо па першай песні. Першая песня – гэта заяўка, а вось другая некаторым нават нашкодзіла.

**– Як вы ставіцеся да таго, што на конкурсах выконваюць вельмі вядомыя песні, напрыклад, песня Іны Афанасьевай “Сумны саксафон”, якой ужо больш за 20 гадоў, гучала двойчы?**

– Адназначна, раю ўсім выканаўцам выконваць больш новыя песні і не такія вядомыя. Тая ж песня “Сумны саксафон”. Яна збітая і заезджаная. І хочаш ці не хочаш, але параўноўваеш з ранейшым выкананнем. Здзівіць такой песняй вельмі і вельмі складана. Таму парада будучым канкурсантам – выбірайце новыя песні, каб выкананне іншых параўноўвалі з вашым.

**Старонкі 20-21 падрыхтавалі Наталля ТУР, Настасся РОЎДА, Зоя ХРУЦКАЯ.**

**Больш фота з фестывалю глядзіце на сайце**

Rh.by


Антон Антонаў, 12 гадоў, Смаргонскі раён. Першае месца ва ўзроставай групе ад 9 да 13 гадоў.


Дыяна Бажко, 16 гадоў, Маладзечанскі раён. Першае месца ва ўзроставай групе ад 14 да 17 гадоў.


Уладзімір Высоцкі, 18 гадоў, Вілейскі раён. Першае месца ва ўзроставай групе ад 18 да 23 гадоў.


Пётр Кулеш, 28 гадоў, Вілейскі раён. Першае месца ва ўзроставай групе ад 24 да 31 года.

# Фестываль-конкурс "Адна зямля" ў лічбах

**7** гадзін доўжыўся конкурс

**37** канкурсантаў узялі ўдзел

**9** гадоў самаму малодшаму ўдзельніку

**31** год самаму старэйшаму канкурсанту

**17** гадоў існуе фестываль

- Прыз глядацкіх сімпатый "Рэгіянальная газета" ўручыла **Яўгену Мажуту**, Астравецкі раён.
- Прыз "Удалы дэбют" узяла **Мілана Соніч**, Валожынскі раён.
- Прыз за яркае адлюстраванне вобразу Радзімы дастаўся **Вользе Гіршык**, Мядзельскі раён.
- Прыз "Творчая надзея" забраў **Павел Кузіч**, Валожынскі раён.

**Нумар уверсе фота азначае месца, якое заняў удзельнік фестывалю.**


Арцём Скароль, 9 гадоў, Ашмянскі раён.


Любоў Шчарбакова, 30 гадоў, Ашмянскі раён


Марыя Субач, 16 гадоў, Маладзечанскі раён.


Паліна Захарчанка, 21 год, Маладзечанскі раён.


Алена Бароўская, 23 гады, Ашмянскі раён.


Дар'я Бразоўская, 16 гадоў, Валожынскі раён.


Элада Колерава, 20 гадоў, Маладзечанскі раён.


Мікалай Гарбачэўскі, 11 гадоў, Маладзечанскі раён.


Андрэй Нядзвецкі, 12 гадоў, Валожынскі раён.


Аліса Шадура, 11 гадоў, Астравецкі раён.


Мілана Соніч, 9 гадоў, Валожынскі раён.


Лізавета Шутава, 11 гадоў, Вілейскі раён.


Віталь Рогач, 12 гадоў, Вілейскі раён.


Крысціна Кудаш, 10 гадоў, Смаргонскі раён.


Ганна Быкава, 16 гадоў, Вілейскі раён.


Дыяна Масцяніца, 16 гадоў, Мядзельскі раён.


Ілля Нойкін, 16 гадоў, Валожынскі раён.


Ксенія Крышаловіч, 11 гадоў, Ашмянскі раён


Ірына Храмцова, 14 гадоў, Вілейскі раён.


Марыя Давідовіч, 13 гадоў, Маладзечанскі раён.


Ангеліна Захарэўская, 16 гадоў, Ашмянскі раён.


Павел Кузіч, 28 гадоў, Валожынскі раён.


Вольга Ляшковіч, 14 гадоў, Мядзельскі раён.


Кацярына Арловіч, 21 год, Смаргонскі раён.


Юлія Масквіна, 21 год, Астравецкі раён.


Алёна Івашка, 12 гадоў, Астравецкі раён.


Яўген Мажута, 25 гадоў, Астравецкі раён.


Вераніка Гапанёнак, 31 год, Маладзечанскі раён.


Антаніна Галубовіч, 27 гадоў, Вілейскі раён.


Ірына Мачнева, 23 гады, Ашмянскі раён.


Вольга Гіршык, 23 гады, Мядзельскі раён.


Елізавета Усаевіч, 16 гадоў, Смаргонскі раён

ЗДАРОВЫ ЛАД ЖЫЦЦЯ

# Умееце хадзіць, значыць, здолееце і з палкамі

МАЛАДЗЕЧНА

**Так сцвярджае трэнер па скандынаўскай хадзьбе Аляксей Роўда. Ён некалькі разоў у тыдзень збірае групу і ходзіць у гарадскім парку.**


Фота Наталлі ТУР.

Падчас ранішняй трэніроўкі ў парку. Злева направа: Ульяна Севасцей, Аксана Ганчарык, Кацярына Кулік, Таццяна Юркоўская і трэнер Аляксей Роўда.

– Ну, наконт групы не зусім так, – удакладняе Аляксей. – Я нікога спецыяльна не збіраю. Пачалося ўсё з таго, што я сам стаў хадзіць у парку. Адзін раз падышла жанчына, спыталася, ці можна са мной хадзіць, другі раз падышла другая. Цяпер, бывае, што чалавек восем збіраюцца.

Скандынаўская хадзьба з'явілася тады, калі прафесійныя лыжнікі задумаліся над тым, што трэніроўкі летам такія ж неабходныя, як і зімой. Лічыцца, што ўпершыню паспрабавалі трэніравацца з адным палкамі фінскія лыжнікі. І, як аказалася, паказчыкі спартыўныя ў іх аказаліся нашмат вышэйшыя ў параўнанні з тымі спартсменамі, хто ігнараваў летнія трэніроўкі.

На жаль, кажа Аляксей, скандынаўская хадзьба не распаўсюджаная ў Маладзечне. Няма спецыяльных груп і арганізаваных заняткаў, хаця пераваг скандынаўскай хадзьбы перад іншымі відамі спорту Аляксей называе нямала.

- Скандынаўская хадзьба трымае тонус мышцаў адначасова верхняй і ніжняй часткі цела.
- Трэніруе да 90% усіх мышцаў.
- Спальвае на 46% больш калорый, чым звычайная хадзьба.
- Змяншае пры хадзьбе ціск на калені і пазваночнік.
- Паляпшае працу сэрца і лёгкіх.
- Ідэальна падыходзіць для выпраўлення паставы.
- Паляпшае пачуццё каардынацыі і раўнавагі.
- Дапамагае людзям з праблемамі ў апорна-рухальным апараце.

На пытанне, ці танны гэты від спорту, Аляксей адказаў, што галоўнае падабраць правільны абутак, адзенне і правільныя палкі.

– Што датычыцца адзення, то тут трэба кіравацца прынцыпам – не змерзнуць зімой і не растаць летам. У якасці абутку ідэальна падыходзяць красоўкі для бегу. Ні ў якім разе не кеды. Ну і выбар палак. Спецыялісты даўно распрацавалі формулу, па якой трэба выбіраць палкі, якія падыдуць менавіта вам.

Для людзей з невысокім тэмпам хадзьбы, для тых, хто толькі пачаў займацца, трэба свой рост памножыць на каэфіцыент 0,66. Напрыклад: рост 171 см × 0,66 = 112,86. Такой вышыні палкі трэба выбіраць.

Для больш трэніраваных людзей, напрыклад, для тых, у каго хадзьба замяняе фітнес, падыходзіць формула: рост чалавека × 0,68.

Для трэніраваных спартсменаў, аматараў хуткага тэмпу хадзьбы, падыдуць палкі, даўжыня якіх разлічваецца па формуле: рост чалавека × 0,70.

**А каштуюць палкі для скандынаўскай хадзьбы ад 90 тысяч да 2 мільёнаў рублёў за пару.**

– Тым, хто толькі пачынае займацца, – запэўнівае Аляксей, – не трэба ніякія "навароты". Дастаткова набыць самыя танныя палкі, якія прадаюцца ў спартыўных магазінах.

Займаецца група Аляксея раніцай, калі ў парку мала людзей і паветра чыстае.

**– Тэхніку правільнай хадзьбы можна паставіць за шэсць заняткаў, а тады можна займацца самастойна.**

Галоўнае, спачатку хадзіць не меней за 40 хвілін, а потым трэба час трэніровак павялічваць да 1,5 – 2 гадзін не менш за тры разы на тыдзень.

Ну, і галоўны сакрэт поспеху, дзеліцца Аляксей Роўда, – гэта рэгулярнасць.

**Наталля ТУР.**

АКТЫЎНЫ АДПАЧЫНАК

# Вандроўка медыкаў па Вяллі па-беларуску

ВІЛЕЙКА, СМАРГОНЬ

**6-7 чэрвеня група вандроўнікаў, аснову якой складалі медыкі і якіх звязвае сяброўства са студэнцкай пары, здзейснілі шосты водны паход выхаднога дня, які прысвяцілі Дню медыцынскага работніка.**

Сяброўству маладзечанскіх медыкаў ужо болей за 35 гадоў.

У студэнцкія гады яны разам рабілі спартыўныя пешыя, лыжныя, горныя паходы па Каўказе, Алтаі, Туркменіі, горным Крыме, Карэліі, Хібінах, Карпатах. Цяпер многія з іх ужо сталі пенсіянерамі і выбралі фізічна больш лягчэйшы від турызму, калі не трэба несці за плячамі цяжкія заплечнікі – сплаў па рацэ. Вандроўка адбылася па родным краі, па рацэ Вялля. Маршрут Залессе-Жодзішкі выбралі як самы насычаны гістарычнымі аб'ектамі на берагах Вяллі.

На гэтым кавалку ракі таксама ёсць парог Прывітальны і некалькі перакатаў з сакральнымі камянямі "Верабей", "Зязюля", "Ластаўка" і чыстымі крыніцамі на берагах.

Падчас сплаву ладзілі і экскурсіі. Завіталі ў музей-сядзібу Агінскага, што ў Залессі, на вайсковыя могілкі 1914-1917 гг. у Маркунях, да касцёла Данюшава, у вёску Старая Рудня, дзе захаваліся ландшафтныя помнікі і драўляная пабудова з 1850 года, да прыродных помнікаў – Раслянскай затокі, каменя "1917".

Плаўсродкі і экскурсійную праграму прадставіў **Алег Мізула**, гаспадар аграсядзібы "Вялес". Алег як краязнаўца вельмі цікава распавядаў пра мясцэчкі, вёскі і хутары на берагах Вяллі. Выканаў мноства аўтарскіх песень пра наш цудоўны край і прыгажуню Вяллю. А напачатку, у пятнічны вечар, усіх вандроўнікаў традыцыйна чакала гаспадарская лазня, каб змыць гарадскі пыл і стому.

У вандроўцы бралі ўдзел: **Ванда Антылеўская**, вядомы многім маладзечанцам доктар-кардыёлаг Маладзечанскай ЦРБ; знакаміты альпініст, "снежны барс" з Падбярэззя Вілейскага раёна, цяперашні загадчык лабараторнага аддзялення НДІ анкалогіі у Бараўлянах, кандыдат медыцынскіх навук **Аляксандр Дуброўскі**, які прымаў удзел разам са сваім сынам **Яўгенам**; доктар-анестэзіёлаг-рэаніматолаг з Наваполацкай ЦРБ **Уладзімір Горбікаў** і яго жонка загадчыца аддзела рэанімацыі для немаўлят Наваполацкага раддома **Святлана Горбікава**; дактары лабараторнай дыягностыкі з Бараўлянаў **Аляксей Чарняўскі** і **Святлана Засмужэц**; доктар лабараторнай дыягностыкі з Мінска **Ірына Хомчык** з мужам і аўтар гэтага артыкула.

Усё было цудоўна, як бывае, калі сустракаюцца даўнія сябры, пашанцавала і з надвор'ем. Але самай адметнай з'явай гэтай вандроўкі стала, з падачы Алега Мізулы, родная мова.

Усе ўдзельнікі шчыра стараліся, як маглі і ўмелі карысталіся роднай мовай. Экскурсавод музея-сядзібы Агінскага **Уладзімір Грыбанаў** таксама, па нашым жаданні, правёў экскурсію на добрай літаратурнай беларускай мове. Нават наш верны сябра Аляксей Чарняўскі, які нарадзіўся аж у Ташкенце і дагэтуль ніколі не карыстаўся беларускімі словамі, у атачэнні мілых воку краявідаў, чуючы беларускую мову, якая гучала як спевы птахаў, ад рання да вечара, з вуснаў сяброў і жонкі, пад канец кароткай вандроўкі таксама пачаў "рэзаць" на зайздросна трасянцы.

**Міхаіл МІХАЛЕВІЧ,**
**доктар-гігіеніст, загадчык аддзялення Маладзечанскага занальнага ЦГЭ.**


Фота забяспечана Міхаілам МІХАЛЕВІЧАМ.

Падчас сплаву па рацэ Вілія ўдзельнікі вандроўкі спявалі песні і жартавалі.

# Моладзевы турыстычны злёт прайшоў у Слабодцы

МАЛАДЗЕЧНА

**Адкрыты турыстычны злёт моладзі Маладзечанскага раёна прайшоў 19-21 чэрвеня паблізу вёскі Слабодка Мясоцкага сельсавета.**

Першае месца заняла каманда завода металічных канструкцый.

Злёт, як заўсёды, праводзіў турыстычны клуб "Пілігрым". Сёлета ў спаборніцтвах удзельнічалі сем камандаў. Усяго – 116 чалавек.

Дырэктар турклуба "Пілігрым" і галоўны суддзя турзлёту **Сяргей Бялкоў** расказаў "Рэгіянальнай газеце", што падчас злёту камандам давалося паспаборнічаць ў начным, яно пачыналася ў 11 вечара і доўжылася да трох гадзін ночы, і дзённым арыентаванні, тэхніцы пешага, воднага і веласіпеднага турызму. Дзеці, якія прыехалі на злёт, паўдзельнічалі ў дзіцячай паласе перашкод. Самаму малодшаму ўдзельніку злёту, **Ігару Вышыдкевічу**, яшчэ няма і годзіка. Ён прыехаў на злёт з мамай, **Галінай Вышыдкевіч**, якая не прапускае ніводнага падобнага мерапрыемства.

Сяргей Бялкоў сказаў, што сёлета два віды спаборніцтваў крыху змяніліся. Велатурысты сапернічалі не толькі на паляне, але павінны былі паказаць сябе ў арыентаванні на мясцовасці. Трэба было з картай знайсці кантрольныя пункты і вярнуцца на месца выезду.

Тое ж самае з водным турызмам. Праплыўшы дыстанцыю на вадзе, удзельнікі камандаў павінны былі знайсці кантрольныя пункты на беразе.

У агульнакамандным заліку па суме ўсіх відаў спаборніцтваў першае месца заняла каманда завода металаканструкцый. На другім месцы – зборная моладзі "Цюлені". Трэцяй стала каманда завода "Электрамодуль".

**Наталля ТУР.**
**Глядзіце фота на сайце**



ЛІТАРАТУРА

# 10 кніг ад Анатоля Зэкава, якія дазволяць адчуць сябе беларусам

Удзельнічайце ў конкурсе, які ладзяць Цэнтральная раённая бібліятэка імя Максіма Багдановіча, курсы беларускай мовы "Мова Нанова" і "Рэгіянальная газета".

Запрашаем вас ад 15 чэрвеня да 15 верасня завітваць у Цэнтральную раённую бібліятэку імя Максіма Багдановіча і браць для чытання беларускія кнігі ці часопісы. Яна часова месціцца ў бібліятэцы "Верасок" па адрасе: Вялікі Гасцінец, 121.

Пераможцаў вызначаць у верасні. Лепшых кнігалюбаў чакаюць падарункі. Для таго, каб было прасцей выбраць кнігу, "РГ" друкуе спісы лепшых кніг на думку пісьменнікаў, якія ўдзельнічалі ў сёлетнім Нацыянальным фестывалі беларускай песні і паэзіі.

## ТОП-10 ад Анатоля Зэкава

1. **Кастусь Цвірка**. "Воўчая выспа".
2. **Віктар Казько**. "Час збіраць косці".
3. **Людміла Рублеўская**. Серыя кніг "Авантуры Пранціша Вырвіча, шкаляра і шпега", раманы "Золата забытых магіл", "Гульня ў Альбарутэнію" і іншыя.
4. **Уладзімір Сцяпан**. "Адна капейка".
5. **Леанід Дайнека**. "Назаві сына Канстанцінам".
6. **Сяргей Верацiла**. "Разбітае сэрца Вітаўта".
7. **Рыгор Барадулін**. "У неба пехатою" і іншыя кнігі паэзіі.
8. **Генадзь Бураўкін**. "Нагаварыцца з зоркамі" і іншыя кнігі паэзіі.
9. **Алесь Разанаў**. "Лясная дарога" і іншыя кнігі.
10. **Андрэй Федарэнка**. "Мяжа".

**Падрыхтавала Таццяна ЗАКРЭЎСКАЯ, загадчыца аддзела абслугоўвання Маладзечанскай цэнтральнай раённай бібліятэкі.**

РЭПЕРТУАРЫ

## Кінатэатр "Мір", Вілейка

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Анімацыя "**Мака Макака**" (Данія, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
3 ліпеня – у 14:30
5 ліпеня – у 13:00
Цана білета: 12 000 рублёў

Баявік "**Джон Уік**" (ЗША, з 16 год)
3, 4, 5 ліпеня – у 18:00
Цана білета: 35 000 рублёў

Трылер "**Перавага**" (ЗША, Кітай, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
3, 4, 5 ліпеня – у 20:00
8, 9 ліпеня – у 17:00
Цана білета: 35 000 рублёў

Анімацыя "**КіноДзяцінства. Маша і мядзведзь: Героямі не нараджаюцца. Новыя эпізоды**" (Расія, без узроставых абмежаванняў)
4 ліпеня – у 13:00
Цана білета: 12 000 рублёў

Анімацыя "**Олі і скарб піратаў**" (3D, ЗША, 2014, без узроставых абмежаванняў)
8, 9 ліпеня – у 13:30, 15:30
Цана білета: 20 000 рублёў

Трылер "**Вій**" (3D, Расія, Украіна, 2014)
8, 9 ліпеня – у 19:00, 21:30
Цана білета: 30 000 рублёў

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Анімацыя, камедыя "**Галаваломка**" (3D, ЗША, без узроставых абмежаванняў)
3, 8 ліпеня – у 14:00
4, 5 ліпеня – у 14:30
5 ліпеня – у 19:00 (цана білета: 55 000 рублёў)
Цана білета: 30 000 рублёў

Ваенная драма "**Снайпер. Апошні выстрал**" (Расія, 2015, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
3 ліпеня – у 18:30
4 ліпеня – у 19:30
5 ліпеня – у 17:00
Цана білета: 25 000 рублёў

Камедыя, музыка, драма "**Супер Майк XXL**" (ЗША, 2015, з 18 год)
3 ліпеня – у 20:30
4 ліпеня – у 17:00
4, 9 ліпеня – у 21:30
8 ліпеня – у 18:30
Цана білета: 45 000 рублёў

Анімацыя, прыгоды "**Суперкаманда**" (3D, Іспанія, Аргенціна, 2015, без узроставых абмежаванняў)
4 ліпеня – у 12:00
Цана білета: 30 000 рублёў

Камедыя, баявік "**Прыгажуні ў бягах**" (ЗША, 2015, з 16 год)
4, 8 ліпеня – у 21:00
9 ліпеня – 20:00
Цана білета: 45 000 рублёў

Анімацыя, прыгоды "**Пінгвіняня Параро: Вялікія гонкі**" (3D, Паўднёвая Карэя, Кітай, 2015, без узроставых абмежаванняў)
5 ліпеня – у 12:30
Цана білета: 15 000 рублёў

Анімацыя, камедыя "**Міньёны**" (3D, ЗША, 2015, без узроставых абмежаванняў)
9 ліпеня – у 13:00, 15:30 (30 000 рублёў)
9 ліпеня – у 18:00 (55 000 рублёў)

Тэл.: **8(01771) 5-68-59**

## Кінатэатр "Радзіма", Маладзечна

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Анімацыя, прыгоды "**Пінгвіняня Параро: Вялікія гонкі**" (3D, Паўднёвая Карэя, Кітай, 2015, без узроставых абмежаванняў)
3 ліпеня – у 13:50
7 ліпеня – у 17:00 (15 000 рублёў)

Анімацыя, прыгоды "**Суперкаманда**" (3D, Іспанія, Аргенціна, 2015, без узроставых абмежаванняў)
4 ліпеня – у 13:20 (30 000 рублёў )

Анімацыя, камедыя, сямейны "**Галаваломка**" (3D, ЗША, 2015, без узроставых абмежаванняў)
3 ліпеня – у 17:40 (цана білета: 55 000 рублёў)
4 ліпеня – у 15:40 (30 000 рублёў)
5 ліпеня – у 18:40 (55 000 рублёў)

Анімацыя "**Захавальнік Месяца**" (3D, Францыя, 2015, без узроставых абмежаванняў)
5 ліпеня – у 12:40
8 ліпеня – у 17:00 (30 000 рублёў)

Ваенная драма "**Снайпер. Апошні выстрал**" (Расія, 2015, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
3 ліпеня – у 15:40
5 ліпеня – у 14:40 (35 000 рублёў)

Жахі "**Астрал 3**" (ЗША, Канада, 2015, з 16 год)
3 ліпеня – у 20:00
4 ліпеня – у 18:00
7 ліпеня – у 19:00 (45 000 рублёў)

Камедыя, баявік "**Прыгажуні ў бягах**" (ЗША, 2015, з 16 год)
4 ліпеня – у 20:00
5 ліпеня – у 16:40
6, 8 ліпеня – у 19:00 (45 000 рублёў)

Камедыя, музыка, драма "**Супер Майк XXL**" (ЗША, 2015, з 18 год)
3, 4 ліпеня – у 22:00 (50 000 рублёў)
5, 6, 7, 8 ліпеня – у 21:00 (45 000 рублёў)

Прэм'ера! Анімацыя, камедыя "**Міньёны**" (3D, ЗША, 2015, без узроставых абмежаванняў)
9 ліпеня – у 14:40, 16:50 (цана білета: 30 000 рублёў)
9 ліпеня – у 21:00 (55 000 рублёў)

Прэм'ера! Жахі, трылер "**Палтэргейст**" (3D, ЗША, 2015, з 16 год)
9 ліпеня – у 19:00
Цана білета: 55 000 рублёў

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Анімацыя "**Олі і скарб піратаў**" (3D, ЗША, 2014, без узроставых абмежаванняў)
3, 4, 5 ліпеня – у 15:00 і 17:00
Цана білета: 25 000 рублёў

Фэнтэзі "**Вій**" (3D, Расія, 2014)
3, 4, 5 ліпеня – у 19:00
3, 4 ліпеня – у 21:20
5 ліпеня – у 21:30
Цана білета: 30 000 рублёў

Анімацыя, камедыя "**Храбры плаўнік**" (Кітай, Канада, 2012, без узроставых абмежаванняў)
6 ліпеня – у 16:00
Цана білета: 15 000 рублёў

Драма "**На крылах**" (Расія, 2013, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
7, 9 ліпеня – у 19:30
Цана білета: 35 000 рублёў

Прыгоды "**Гэта твой дзень**" (Расія, 2013, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
8 ліпеня – у 16:00
Цана білета: 15 000 рублёў

Камедыя, меладрама "**Экзамен для дваіх**" (ЗША, 2013, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
6, 7 ліпеня – у 21:30
Цана білета: 35 000 рублёў

Баявік "**Анёл-ахоўнік**" (Германія, 2012, з 16 год)
8 ліпеня – у 21:30
Цана білета: 35 000 рублёў

Крымінал, драма, камедыя "**Воўк з Уол-стрыт**" (ЗША, 2013, з 18 год)
9 ліпеня – у 21:30
Цана білета: 35 000 рублёў



Кадр з фільма "Воўк з Уол-стрыт".

Тэл. : **8(0176) 77-15-92, 77-06-30**

СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 5 | | 6 | | | 2 | | 8 |
| | | | | 2 | 4 | | | 9 |
| | | 6 | | | | 7 | | |
| | 1 | | | 7 | | | | |
| 3 | 6 | | | 4 | | | 7 | 5 |
| | | | | 5 | | | 1 | |
| | | 1 | | | | 8 | | |
| 4 | | | 3 | 8 | | | | |
| 8 | | 3 | | | 2 | | 9 | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3x3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.





ГАРАСКОП
3-9 ЛІПЕНЯ


**Авен.** Замест таго, каб сядзець з сябрамі ў душным памяшканні, з'ездзіце з імі ў лес на шашлыкі. Хадзіце пешшу на работу і назад.


**Цялец.** Не забывайце рабіць кампліменты сябрам і каханаму чалавеку. Яны адкажуць тым жа.


**Блізняты.** Каханаму чалавеку прызначце сустрэчу пад зоркамі – гэта вельмі рамантычна, ды і для здароўя карысна.


**Рак.** Варта задумацца пра паездку, якая, як прадказваюць зоркі, адбудзецца праз некалькі месяцаў. Калі зараз усё спланаваць, падарожжа будзе ўдалым.


**Леў.** У бацькоў з дзецьмі могуць складвацца няроўныя адносіны, мець месца крыўды з-за дробязяў і ўзаемныя правакацыі. На дапамогу вам прыйдзе мудрасць, жыццёвы досвед і ўменне дараваць.


**Дзева.** Эмацыйны фон тыдня толькі злёгку пафарбаваны ў непрыязныя тоны, але адбіваецца гэта перш на вашых адносінах з блізкімі – раздражненне, крыўды вы несяце "ў дом", нічога не пакідаючы за парогам. Добра, што вас разумеюць. Але беражыце тых, каго любіце.


**Шалі.** Старасць – у чалавека ў галаве. Вы павінны расці і вучыцца далей. І гэта адзінае супрацьядзе ад яе.


**Скарпіён.** Ваша схільнасць да пабудовы паветраных замкаў можа ператварыцца ў кучу неадкладных спраў, якія трэба будзе перарабляць на працягу ўсяго тыдня.


**Стралец.** Жыццё сумнае без мэты. Вырашыце, што важна для вас, і пабудуйце сваё жыццё вакол гэтага.


**Казярог.** Вам проста неабходна цвёрда стаяць на зямлі, не лунаць у аблоках і пазбягаць незразумелых сітуацый.


**Вадалей.** Для тых, хто ўмее пазітыўна глядзець на самыя што ні ёсць звычайныя рэчы, настрой будзе добры, нягледзячы на ўсялякія непаразуменні.


**Рыбы.** Вы ўвайшлі ў паласу росквіту любові і сяброўства. Імкніцеся не азмрочваць адносін з блізкім чалавекам неабгрунтаванымі падазрэннямі і прыдзіркамі. І нехта з вас даб'ецца таго, што хобі пачне прыносіць грошы, і немалыя.

Марыя УРБАНОВІЧ.

ISSN 1991-7155



**Камент-эксперт**
Выкажы сваё меркаванне пра газету ці пра асобны артыкул, паслаўшы SMS-паведамленне на нумар +375 (29) 67-68-420, на e-mail regionnews@rh.by або пакінь каментар на Rh.by


# Рэгіянальная газета. Rh.by

Тэлетыдзень 27


## НАДВОР'Е

**4 ліпеня, субота**

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +13 / +25 | | +17 / +28 | | +18 / +30 | | +17 / +32 | |
| | 752 | ↓ 8 | 750 | → 3 | 745 | ↘ 4 | 743 | ↗ 9 |
| Вільня | +13 / +25 | | +16 / +27 | | +17 / +28 | | +19 / +32 | |
| | 762 | ↓ 5 | 759 | → 9 | 754 | ↘ 7 | 750 | ↗ 6 |

| Тэмпература паветра | Воблачнасць ападкі | Усход, захад па Маладзечне |
|---|---|---|
| Ціск (мм рт. сл.) | Хуткасць ветра м/с | |

Усход 4.45
Захад 21.48
Даўжыня дня 17.03

Усход 22.52
Захад 7.50
Квадра 3




## ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я Ў РЭГІЁНЕ

### ВАЛОЖЫН

Мінімальная тэмпература +8,4 °C у 1982 годзе
Максімальная тэмпература +31,2 °C у 2002 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 33,6 мм у 2010 годзе
Назіранні за 38 год. Паводле meteoinfo.by

## Чытайце праз тыдзень:

- У наступным нумары "РГ" чытайце гісторыю сям'і з Вілейкі, якім ужо другі раз падкідваюць у двор сабак.



## ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ І ВІЛЕЙЦЫ

# Што для вас значыць дзень 3 ліпеня?



**Марыя Шыцік, прадавачка, Маладзечна:**
– Гэта дзяржаўнае свята, выхадны дзень. Звычайна ў гэты дзень гуляем з сям'ёй у парку, сёлета своеасаблівых планаў няма.



**Дар'я Кужаль, сакратарка, Вілейка:**
– 3 ліпеня – Дзень Незалежнасці нашай краіны. Для мяне гэта значная падзея, ганаруся нашымі прадзядулямі і прабабулямі за іх бессмяротны подзвіг, удзячная за светлае неба над нашымі галовамі. Застаецца толькі пакланіцца ім у ногі.



**Ігар Емяльяненка, зваршчык, Вілейка:**
– 3 ліпеня – Дзень Незалежнасці нашай краіны, у гэты дзень вызвалілі Мінск. З аднаго боку, гэта святочны дзень. З іншага, як гавораць, са слязьмі на вачах, бо незлічоная колькасць людзей загінула дзеля незалежнасці нашай краіны.



**Віктар Емяльянаў, пенсіянер, Вілейка:**
– У гэты дзень наша краіна была вызвалена ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, яна атрымала незалежнасць. Кожны беларус павінны гэтаму радавацца і ганарыцца подзвігам продкаў.



**Дзмітры Соніч, эканаміст, Маладзечна:**
– Дзень вызвалення Мінска ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Для краіны – гэта сімвал непераможнасці народа, увасабленне яго мужнасці, стойкасці, дзень памяці продкаў, якія змагаліся і загінулі ў вайну.



**Аксана Юркевіч, выхавальніца, Маладзечна:**
– Гэта Дзень Незалежнасці, выхадны. Такія святы абавязкова павінны адзначацца ў краіне. А моладзі трэба тлумачыць, чаму мы адзначаем гэта свята, каб яны беряглі памяць пра наша мінулае.



**Дзяніс Дрозд, выпускнік, Маладзечна:**
– Гэта Дзень Незалежнасці. Для мяне асабіста гэты дзень асацыюецца з шарыкамі, феерверкам, весялосцю, адпачынкам.

**Падрыхтавала Галіна СІНІЦА.**


Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 6000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№ 27 (1053) 3.07.2015. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня УП "Плутас-Маркет", 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59а.
Ліцэнзія ЛП №02330/19 ад 30.04.2004 №93.
Зак. 882. Падпісана ў друк у 9.00 2.07.2015.
Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.

Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68-а.
Тэлефоны/факс: (0176) 769667, 747100, 753841 (рэклама).
E mail: regionnews@rh.by, reklama@rh.by, http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004
у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226,
атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета",
УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.